**У НУМАРЫ**




# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 31 (753) БЕЛАСТОК, 2 ЖНІЎНЯ 1970 г. ЦАНА 60 гр.


## КАНФЕРЭНЦЫЯ ў Дуброве

Дуброўскі аддзел існуе ад верасня 1962 года. Аднак праца бэгакатоўская ніколі там шырэй не разгарнулася і не набрала аніякіх колераў, а ў апошнія гады зусім занепала. Таму неабходна было вярнуць жыццё гурткам і аддзелу БГКТ. Выбарчая канферэнцыя адбылася там 12 ліпеня ў мясцовым кіно. У ёй прыняло ўдзел каля 100 чалавек — членаў нашага таварыства з паасобных гурткоў. У асноўным была гэта моладзь. Канферэнцыю адкрыў інструктар Галоўнага праўлення на Дуброўскі і Сакольскі паветы — Анатоль Севасцьянюк, які, прывітаўшы прадстаўнікоў улад партыйных, адміністрацыйных і нашай арганізацыі — запрапанаваў на старшыню канферэнцыі члена прэзідыума ГП, доктара філалагічных навук Аляксандра Баршчэўскага. Гэтую кандыдатуру прысутныя прымаюць аднагалосна. Старшыня канферэнцыі дзякуе за давер, знаёміць прысутных з парадкам дня і па яго прапанове ўдзельнікі канферэнцыі ўстаюць і хвілінай цішыні ўшаноўваюць памяць трагічна памёршага былога старшыні аддзела Івана Кіндзюка. Затым Аляксандр Баршчэўскі для прачытання даклада запрашае старшыню ГП БГКТ Міхася Хмялеўскага. Тэма даклада: «Роля і задачы БГКТ у беларускім асяроддзі». У дакладзе найбольш месца было прысвечана працы і задачам гуртка БГКТ.

Пасля даклада пачалася дыскусія. Марыя Каленік у сваім выступленні звяртала ўвагу на недахопы ў вёсцы культурна-асветнай дзейнасці, жывога слова і мастацкай самадзейнасці. Чэслаў Ацэвіч гаварыў аб грамадскім запатрабаванні на дзейнасць БГКТ.

— Беларускае таварыства, — гаварыў ён, — існуе ужо 15-ты год, а ў нашай вёсцы Астрова аб яго ролі і заданнях шырока і дакладна даведаліся мы з вуснаў прадстаўнікоў Галоўнага праўлення толькі ў месяцы лютым бягучага года на вясковым сходзе.

— Каб быў у нас гурток БГКТ, — працягваў Чэслаў Ацэвіч, — магчыма, ён добра працаваў бы і тады, напэўна, супольна мы дабіліся б таго, каб у нас рэміза са святліцаю будавалася не чарапашым тэмпам, а значна хутчэй.

Андрэй Мазалеўскі выступаў два разы і закрануў вельмі істотныя справы беларусаў у Дуброўскім павеце.

— У нас, — з сумам гаворыць ён, — многія саромеюцца прызнавацца да таго, што яны беларусы, саромеюцца сваёй роднай мовы. Асабліва адносіцца гэта да жыхароў горада. А гэта ўжо дурната.

Далей Андрэй Мазалеўскі гаварыў аб навучанні беларускай мовы ў школе: — Калі ў нашай вёсцы Хільмоны навучалася родная мова ў школе, дык было інакш. Падрастаючае пакаленне з належнай пашанай адносілася да сваёй культуры. Але памёр настаўнік беларускай мовы, і ад таго часу аб нацыянальнай гордасці беларуса ў школе не гавораць.

А трэба тут сказаць аб тым, што на Дуброўшчыне зараз ані ў воднай школе не навучаецца родная мова.

Дыскутанты падкрэслівалі, што трэба запачаткаваць на Дуброўшчыне мастацкую самадзейнасць з беларускім рэпертуарам, а перш за ўсё арганізаваць на пачатак хоць адзін харавы калектыў у якой-небудзь вёсцы. Былі прапановы, каб у Ячне Дом культуры стаў рэгіянальным беларускім домам культуры.

Сакратар павятовага камітэта ПАРП Мар'ян Персіянаў перадаў удзельнікам канферэнцыі прывітанні ад экзекуты-

Працяг на стар.4



Вясковае лета. Фота Цаф — Сянько.

*Карэспандэнцыя з Мінска*

## ДОМ КУЛЬТУРЫ Ў КРУПІЦЫ

Шырокая аўтамагістраль хутка імчыцца насустрач аўтобусам. Пасажыры весела гутараць, любуюцца майскім харàством прыроды. Хутка аўтобусы апынуліся на вуліцы вялікага прыгожага сяла Крупіца і спыніліся ля белакаменнага будынка з калонамі. Гэта Дом культуры калгаса «Новы быт» Мінскага раёна. Яркая афіша на спецыяльным стэндзе абвяшчае: «Сёння ў калгасным Доме культуры опера «Травіята», пачатак а 19-ай гадзіне».

Ля параднага пад'езду шмат людзей. Яны чакаюць сваіх шэфаў — самадзейных артыстаў рэспубліканскага Палаца культуры прафсаюзаў.

Хлебаробы калгаса «Новы быт» ужо не раз глядзелі канцэрты сваіх шэфаў. Але сёння рабочыя, інжынеры, канструктары, дактары, настаўнікі і студэнты беларускай сталіцы ўпершыню будуць тут выступаць з операй. Сцэна калгаснага Дома культуры дазваляе паставіць на ёй такі буйны музычны твор.

Свой Дом культуры калгаснікі пабудавалі два гады назад. Гэта даволі вялікі і прытульны двухпавярховы будынак. У сярэдзіне ён мае глядзельную залу на 500 месц, абшырнае фае, якое адначасова служыць і танцавальнай залай. Побач са сцэнай размясціліся артыстычны пакой і некалькі пакояў для працы розных гурткоў. У адным з памяшканняў на другім паверсе знаходзіцца калгасная бібліятэка, якая налічвае цяпер звыш 15 тысяч тамоў рознай літаратуры. Тут жа па суседству чытальная зала і пакой для аматараў шахмат.

У Доме культуры працуе свая стацыянарная кінаўстаноўка, якая дазваляе дэманстраваць шырокаэкранныя фільмы, якія паказваюцца тут штодзень.

У спецыяльна адведзеным пакоі Дома культуры адкрыты музей гісторыі сяла Крупіцы, дзе ёсць два аддзелы: «Так было» і «Так ёсць цяпер». У першым з іх дэманструюцца экспанаты, якія расказваюць аб дарэвалюцыйным жыцці сялян вёскі Крупіцы, іх сродкі вытворчасці і прадметы хатняга ўжытку, сярод якіх — серп, каса, калаўрот, драўляны ткацкі станок і іншыя прадметы мінулага. Экспазіцыя другога аддзела адлюстроўвае сённяшні дзень жыцця калгаснага сялянства. Пазнаёміўшыся з ёю, чалавек даведаецца, што за калгасам замацавана на вечнае карыстанне больш шасці тысяч гектараў зямельных угоддзяў, на яго фермах каля дзвюх тысяч галоў жывёлы. У гаспадарцы працуюць зараз 44 уласныя трактары, 35 аўтамашын, ёсць вялікая колькасць прылад для апрацоўкі глебы, электраматораў і іншай сельскагаспадарчай тэхнікі. На адной з дыягра-

Працяг на стар.4

*Пасля пленума Павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы*

## НОВЫЯ ЗАДАЧЫ -НОВЫЯ МЕТАДЫ

У Гайнаўскім павеце шмат увагі прысвячаецца таму, каб паправіць стыль і метады працы грамадскіх камітэтаў ПАРП.

У апошні час ацаніў гэта павятовы камітэт ПАРП на сваім пленарным пасяджэнні.

Усё часцей гаворыцца аб узрастаючай ролі грамадскіх камітэтаў у кіраванні партыйнымі арганізацыямі і грамадскім, а таксама гаспадарчым жыццём вёскі.

Гэта тэндэнцыя з'яўляецца вынікам дэцэнтралізацыі сістэмы кіравання, павышэння значэння грамады ў дзяржаўнай адміністрацыі і прызнання факту, што павятовыя ўлады не могуць непасрэдна кіраваць жыццём кожнай вёскі, што грамада з'яўляецца неабходнай крыніцай у сістэме ўлады і арганізавання грамадскай актыўнасці вёскі.

Кажуць, што грамадскі камітэт ПАРП з'яўляецца гаспарадом сваёй тэрыторыі. Залежыць дзе. Аб яго значэнні і аўтарытэце вырашае яго ініцыятыва, штодзённая праца, уменне дастасоўвацца канкрэтным і творчым чынам да ўказанняў вышэйшых устаноў і патрэб грамады. Бо нават найбольш дасканалыя ўказанні не могуць замяніць канкрэтнай працы вясковага партыйнага актыву.

У кожнай гайнаўскай вёсцы можам сустрэць такія прыклады: суседзі на такіх самых глебах гаспадараць зусім па-рознаму. Розныя бываюць прычыны гэтага. Гавораць яны аб тым, наколькі вялікія і яшчэ нявыкарыстаныя прадукцыйныя рэзервы ў сельскай гаспадарцы Гайнаўскага павета. Зразумела, што гэта не адзіная галіна дзейнасці партыі на вёсцы, але сярод сельскагаспадарчых задач — тыя, што вынікаюць з пастаноў IX пленума ЦК ПАРП, належаць да найважнейшых.

Галоўны вывад адзін — не лёгка будзе многім таварышам змяніць датыхчасовыя прывычкі, хаця пастаўленыя V з'ездам і пленумам ЦК новыя задачы і абавязкі дыктуюць неабходнасць удасканальваць стыль працы грамадскіх камітэтаў, шукаць новых, багацейшых форм і метадаў працы. Статут дае магчымасць грамадскім камітэтам, на тэрыторыі якіх знаходзяцца большыя падставовыя арганізацыі партыйныя (калі ў суме ў грамадзе больш 400 чалавек — членаў партыі) атрымаць правы такія самыя, якія ўжо маюць партыйныя арганізацыі на вялікіх прамысловых прадпрыемствах. На права гэтае трэба заслужыць.

Грамадскія камітэты слушна канцэнтруюць сваю ўвагу галоўным чынам на двух праблемах, гаспадарчых і ўнутрыпартыйных. Найважнейшымі для вёскі з'яўляюцца праблемы IX пленума ЦК, аднак іх выкананне залежыць ад спраўнай арганізацыйнай і палітычнай дзейнасці партыйных ячэек на вёсцы. Камітэт у Кляшчэлях апрацаваў, напрыклад, праграму выканання пастаноў IX пленума ЦК, абапіраючыся на аналізе сельскагаспадарчай сітуацыі ў грамадзе і мабілізацыі грамадска-гаспадарчага актыву. Іншыя грамадскія камітэты, як напрыклад, у Чыжах і Новаберазове, таксама вялікую ўвагу прысвячаюць справам сельскагаспадарчай прадукцыі. У сваёй дзейнасці аднак яны часта забываюцца аб падрыхтоўцы праграмы і плана працы ў гэтай галіне.

Планаванне працы грамадскіх камітэтаў — гэта пункт працы, які патрабуе асаблівай увагі. Недастаткова ўжо

Працяг на стар.4

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі



## СВЕТ

### ПЕРАГАВОРЫ ФРГ — СССР

У канцы мінулага тыдня ў Маскву прыбыла дэлегацыя Федэратыўнай Рэспублікі Германіі з міністрам замежных спраў Вальтэрам Шэлем.

Міністр Шэль мае тут весці перагаворы адносна заключэння дагавору з СССР у справе непрымянення сілы пры вырашанні спраў паміж абедзвюма дзяржавамі.

Канцлер Вілі Брант заявіў, што федэратыўны ўрад намераны вясці перагаворы ў Маскве «ясным і кансеквентным» спосабам.

### АСУАНСКАЯ ПЛАЦІНА

Напярэдадні нацыянальнага свята Аб'яднанай Арабскай Рэспублікі, прыпадаючага 23 ліпеня, перадана поўнасцю ў карыстанне 12-я турбіна гідраэнергетычнага агрэгата асуанскай плаціны.

Значэнне асуанскага комплексу, які быў пабудаваны пры эканамічнай і тэхнічнай дапамозе СССР, для гаспадаркі ААР велізарнае. Егіпецкія спецыялісты падлічылі, што дзякуючы асуанскаму комплексу, нацыянальны доход за 1967/1968 год павялічыўся на 90 мільёнаў егіпецкіх фунтаў. За гэты час была праведзена ірыгацыя на 240 тыс. гектараў, а загаспадаравана 298 тыс. гектараў новых зямель.

### ДАПАМОГА ПЕРУ

На міжнародны аэрадром у Ліме прыбылі наступныя 4 савецкія самалёты, у тым ліку 2 «АН-22». Прывязлі яны верталёт для абслугі палявой бальніцы, лекі, сродкі транспарту і іншыя прылады.

Група лекараў і маладзёжны медыцынскі атрад выехалі ў горы, дзе будзе змяшчацца палявая бальніца, у якой атрымаюць дапамогу пацярпеўшыя ў нядаўнім землетрасенні.

Міністр аховы здароўя Перу падаў да ведама, што лік ахвяр землетрасення на 31 мая г. г. склаў 20 тысяч забітых і 50 тысяч загінуўшых. Аднак лікі гэтыя могуць яшчэ павялічыцца.

### ДЭЗЕРЦІРУЮЦЬ

Агенцтва друку «Вызваленне» перадае з Паўднёвага В'етнама, што звыш 30 000 салдат марыянеткавай арміі дэзерціравалі або перайшлі на бок народа за першыя шэсць месяцаў гэтага года.

Пачаліся выпадкі адкрытага бунту сярод сэйгонскай арміі. Толькі ў раёне Намбо за другі квартал гэтага года адбыліся 142 салдацкія мецяжы. Паўстанцы са зброяй у руках перайшлі на бок Народных узброеных сіл вызвалення Паўднёвага В'етнама.

### КАНФЕРЭНЦЫЯ МОЛАДЗІ

З нагоды 25-ай гадавіны стварэння Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Нью-Йорку, у сядзібе ААН адбылася сусветная канферэнцыя моладзі. Удзельнічала ў ёй 600 дэлегатаў, якія прадстаўлялі 110 краін — членаў ААН, 34 міжнародныя маладзёжныя арганізацыі, а таксама 14 краін, якія дагэтуль не з'яўляюцца членамі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. (ак)



## БССР

### ПОЛЬШЧЫ

21 ліпеня адбыўся ў сталіцы Беларусі ўрачысты сход, прысвечаны 26-ай гадавіне Народнай Польшчы.

У прэзідыуме сходу — сакратар ЦК Кампартыі Беларусі С. Пілатовіч, намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР А. Золаў, міністр замежных спраў БССР А. Гурыновіч, намеснік старшыні праўлення Беларускага аддзялення Таварыства савецка-польскай дружбы, старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку Р. Канавалаў, першы сакратар ЦК Камсамола Беларусі У. Падрэз і іншыя асабістасці. Аркестр выканаў гімны Польшчы, Саюза ССР і Беларусі.

З дакладам выступіў П. Рублеўскі, намеснік старшыні праўлення Беларускага аддзялення Таварыства савецка-польскай дружбы. Прамову меў член прэзідыума Галоўнага праўлення Таварыства польска-савецкай дружбы Станіслаў Вішнеўскі з Варшаўскага ваяводства.

На Беларусі знаходзілася з дзесяцідзённым візітам дэлегацыя ТППГ. якая пабывала таксама ў Віцебскай, Магілёўскай ды Гродзенскай абласцях. Дэлегацыя абмеркавала пытанні далейшага развіцця і ўмацавання сяброўскіх сувязей паміж Беларуссю і Польшчай.

### ПРАДСТАЎНІКОЎ

У Мінску адбылася нарада прадстаўнікоў чыгунак Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, Польшчы і Саюза ССР. У ёй прынялі ўдзел прадстаўнікі міністэрстваў замежнага гандлю гэтых краін.

На працягу сямі дзён удзельнікі нарады на пленарных пасяджэннях і ў камісіях абмяркоўвалі вынікі перавозак знешнегандлёвых грузаў паміж ГДР, Польшчай і Савецкім Саюзам за першае паўгоддзе гэтага года, удакладнялі аб'ём і накрэслілі меры па забеспячэнню перавозак гэтых грузаў на другое паўгоддзе.

### КАНТРОЛЮ

Летась прадпрыемствы Беларускага ўпраўлення кансервавай прамысловасці нарыхтавалі каля шасцідзесяці тысяч тон бульбы. Прыкладна трэцяя частка гэтай прадукцыі была пакінута на захоўванне ў калгасах і саўгасах.

Аднак, як устанавілі органы народнага кантролю БССР, кіраўнікі асобных агароднінасушыльных заводаў, пералічыўшы за бульбу грошы, не прынялі належных мер для таго, каб своечасова даставіць яе з гаспадарак для перапрацоўкі. 98 калгасаў і саўгасаў не выканалі сваіх абавязацельстваў і не паставілі прадпрыемствам больш як дванаццаць тысяч тон бульбы.

### АРЛОЎСКАГА

Беларускія кінаматаграфісты зрабілі фільм «У агні жыцця» — пра жыццё Героя Савецкага Саюза і Героя Сацыялістычнай Працы Кірыла Арлоўскага, вядомага на Беларусі былога старшыні калгаса «Рассвет».

### ПОМНІК

У вёсцы Раманавічы Гомельскага раёна пабудаваны помнік жыхарам, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. 239 прозвішчаў напісаны на ім. У іх ліку — Герой Савецкага Саюза лётчык Міхась Семянцоў. (ся)



## ПОЛЬШЧА

### 22 ЛІПЕНЯ

У святочным настроі ўся краіна адзначала 26-ую гадавіну гістарычнага Маніфесту ПКВН. Ліпеньскае свята стала датай пачатку вытворчасці ў шэрагу новапабудаваных прадпрыемстваў.

Напярэдадні свята адбылася ў Бельведэры ўрачыстасць адзначэння медалямі найбольш заслужаных грамадскіх дзеячаў і працаўнікоў розных галін гаспадаркі, адміністрацыі, школьніцтва і навукі. На ўрачыстасці з прамоваю выступіў I сакратар ЦК партыі Уладзіслаў Гамулка. Ён ад імя партыі сардэчна павіншаваў узнагароджаных і падкрэсліў, што адзначэнні з'яўляюцца высокім прызнаннем іх грамадскай і прафесіянальнай працы. Затым прамоўца падкрэсліў велізарныя дасягненні Народнай Польшчы на працягу 26 год яе існавання, звяртаючы аднак увагу на тое, што на дасягненні гэтыя нельга глядзець выключна праз прызму колькаснага ўзросту. Зараз гаспадарчы ўзрост краіны мерыцца іншымі паказчыкамі — прадукцыйнасцю працы, авалоданнем здабыткамі навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, сучаснасцю вырабаў. Калі да ацэнкі нашых дасягненняў прымем гэты пункт гледжання, дык акажацца, што ў многіх галінах знаходзімся толькі на пачатку шляху ў параўнанні з гаспадарча найбольш развітымі краінамі свету.

### I ПАЎГОДДЗЕ

Галоўнае статыстычнае бюро (ГУС) апублікавала камюніке аб развіцці нацыянальнай гаспадаркі і выкананні Нацыянальнага гаспадарчага плана ў I паўгоддзі 1970 года. Вынікае з яго, што валавая прадукцыя прамысловасці павысілася ў параўнанні з першым паўгоддзем 1969 года на 8,5 працэнта. План таварнай прадукцыі выкананы ў 101,8 працэнта. Высокі тэмп узросту дасягнуты ў машыннай, электратэхнічнай, сродках транспарту і металургічнай прамысловасцях (12,8 працэнта ўзросту). Колькасць рабочых павялічылася на 68 тысяч, перакрочваючы лік 4 мільёны асоб. Прадукцыйнасць працы ў прамысловасці ўзрасла на 6,6 %.

Атмасферныя ўмовы гэтага года былі надта неспрыяльнымі для сельскай гаспадаркі. Вясной заворана было каля 890 тысяч гектараў пасеваў збожжа і каля 30 тысяч гектараў рапаку. Сёлеташні ўраджай жыта акрэсліваецца як слабы. Вынікі веснавога сельскагаспадарчага перапісу паказваюць, што наступіла ў гэтым годзе зніжэнне колькасці свіней на 6% і колькасці буйнай рагатай жывёлы — на 1,4%. Узрос лік трактараў, перакрочваючы 200 тысяч. Пад сёлеташнія пасевы выкарыстана каля 125 кілаграмаў штучных угнаенняў на гектар.

На інвестыцыі ў нацыянальнай гаспадарцы выдадзена амаль 75 мільярдаў злотых, што з'яўляецца ўзростам на 4,6% і азначае выкананне гадавога плана на 42,3 працэнта. Сярэдні месячны заработак у нацыянальнай гаспадарцы павысіўся на 2,5 працэнта, дасягаючы сумы 2191 злотых. Жыллёвае будаўніцтва аддало ў карыстанне 54 тысячы новых памяшканняў. (п)



## ВАЯВОДСТВА

### «МЕНШ ПАЖАРАЎ — БОЛЬШ ХЛЕБА»

Пад такім лозунгам Ваяводскі камітэт Фронту адзінства народа выступіў з адозвай да ўсіх жыхароў Беласточчыны. Штогод летам значна павялічваецца колькасць пажараў. Агонь забірае нярэдка цэлыя вёскі: будынкі, стагі сена і збожжа. У мінулым годзе з агнём пайшоў маёнтак на суму 61 млн. злотых.

У адозве ВК ФАН гаворыць: «Забеспячэнне нашай уласнасці і жыцця ад агню — гэта адно з найважнейшых заданняў сучаснага моманту. Незалежна ад ахвярнасці членаў добраахвотных і прафесіянальных пажарных каманд у ахове ап пажараў і гашэнні іх, неабходна актыўная дапамога ўсяго грамадства». У адозве гаворыцца аб неабходнасці пабудовы больш супрацьпажарных аб'ектаў, асабліва водных басейнаў, і ўтрымання ў адпаведным стане існуючых, пракладка добрых дарог да гэтых аб'ектаў, аб пашырэнні ведаў і ўмення карыстацца супрацьпажарнымі прыладамі, апека над дзяцьмі і г. д. Ваяводскі камітэт Фронту адзінства народа спадзяецца, што грамадскія і прафсаюзныя арганізацыі адгукнуцца на адозву, арганізуючы на сваёй тэрыторыі працу грамадскім чынам на карысць супрацьпажарнай аховы.

### ЖНІВО

На Беласточчыне — жніво. Сёлета трэба зжаць 233 тыс. гектараў жыта, 57 тыс. гектараў пшаніцы, 74 тыс. гектараў ячменю і 147 тыс. гектараў аўса. Значна зменшылася плошча пад азімінай з-за кепскіх атмасферных умоў. Беластоцкія сяляне сёлета вымушаны былі вясною заараць 81 тыс. гектараў, на якіх азіміна вымакла або папрэла.

### 154 НОВЫЯ ШКОЛЫ

Беластоцкая кураторыя падала да ведама, што на Беласточчыне за перыяд 1961—1969 гадоў пабудаваны 154 падставовыя школы. Апрача таго, грамадскім чынам за гэтыя гады выгаспадараваны і пабудаваны яшчэ 73 класныя пакоі. У будове школ грамадскім чынам вялікія дасягненні маюць Беластоцкі, Манецкі, Ломжынскі, Гайнаўскі і Замброўскі паветы. У плане школьнага будаўніцтва на 1971—1975 гады прадугледжана пабудаваць для падставовых школ яшчэ 400 памяшканняў.

### II МЕСЦА Ў КРАІНЕ

Беластоцкая рыбная цэнтраля зноў заняла адно з першых месц у агульнакраёвым спаборніцтве сярод 17 цэнтраль у Польшчы. Апошнія два гады Беластоцкая цэнтраля займала I месца, а сёлета ўступіла Гдыньскай цэнтралі першае месца мінімальнай розніцай пунктаў — 0,4. Добрая праца беластачан — гэта перш за ўсё добрая арганізацыя мясцовага спаборніцтва. Віншуем і жадаем далейшых поспехаў.

### ВСІ РЫХТУЕЦЦА ДА ЮБІЛЕЮ

Сёлета Вышэйшая інжынерская школа пачынае 21-ы год сваёй працы. У канцы верасня і пачатку кастрычніка тут адбудуцца юбілейныя ўрачыстасці. У 1973 годзе школа рыхтуецца адчыніць яшчэ адзін факультэт — механізацыі сельскай гаспадаркі. (яч)




**Niedziela 2.VIII.**

8.15 Program dnia; 8.20 „Przypominamy, radzimy"; 8.40 „Romeo i Julia" — film fab. radziecki; 10.10 „Zaczarowany kożuszek" — film; 10.35 „Spotkania z przyrodą"; 11.00 Transmisja meczu piłki nożnej w ramach rozgrywek Gwardia (Warszawa) — Wattens (Austria); W przerwie ok. 11.45 PKF; 12.45 Dziennik; 13.00 „Przemiany"; 13.30 „Sezam muzyczny"; 14.00 „Z pamiętników bywalca" — karykatury Jerzego Zaruby; 14.25 Program filmowy; 15.00 Transmisja z półfinału Pucharu Europy mężczyzn w lekkoatletyce (Helsinki); 18.10 Teatr TV na świecie: P. Karvas — „Siedmiu świadków" — widowisko TV Słowackiej; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Skąd my się znamy" — program rozrywkowy; 20.55 „Trapez" — film fab. USA; 22.25 Magazyn Sportowy.

**Poniedziałek 3.VIII.**

16.45 Program dnia; 16.50 Dziennik; 17.00 Teleferie; 17.25 „Echo stadionu"; 17.40 Magazyn ITP; 18.00 „Eureka"; 18.30 „Polski Film Dokumentalny"; 19.00 „Gościniec" — film pol.; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 Teatr TV: L. Leonow — „Złota kareta"; 21.30 „Za kierownicą"; 22.00 „Debiuty piosenkarskie"; 22.45 Dziennik.

**Wtorek 4.VIII.**

10.00 „Car i generał" — film fab. bułg.; 11.35 Przerwa; 16.45 Program dnia; 16.50 Dziennik; 17.00 Telewizyjny Ekran Młodych; 18.45 „Hodowlane perypetie" — program wiejski; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „San Remo śpiewa trzy dni" — rep. film.; 20.30 „Deficytowy szyfr" — program publ.; 21.00 „Car i generał" — film fab. bułg.; 22.40 Dziennik.

**Środa 5.VIII.**

10.00 „Małżeństwo z rozsądku" — film fab. czechosł. cz. II; 11.40 Przerwa; 15.55 Program dnia; 16.00 Teleferie; 17.00 Transmisja z finałowego meczu piłki nożnej o Puchar Polski Górnik (Zabrze) — Ruch (Chorzów); W przerwie ok. 17.45 Dziennik; 18.45 TV Kurier Warszawski; 19.00 „Portret miasta" — rep. Tele-Aru; 19.30 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 19.55 „Małżeństwo z rozsądku" — film fab. czechosłowacki cz II; 21.35 „Światowid"; 22.05 PKF; 22.15 „Warszawska Jesień" — film; 22.55 Dziennik.

**Czwartek 6.VIII.**

16.45 Program dnia; 16.50 Dziennik; 17.00 „Holandia" — film dok. holend.; 17.25 „Nie tylko dla pań"; 17.45 „Tryptyk sądecki" — film pol.; 18.00 „Dom pod strzechą" — rep.; 18.30 „Pieśni Odrodzenia" — film rum.; 18.45 „Bomba i polityka"; 19.10 „Przypominamy, radzimy"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 Kino Interesujących Filmów: „Popioły" — film fab. pol. cz. I; 21.45 „Kontakty"; 22.15 Recital piosenkarski Connie Francis; 23.05 Dziennik.

**Piątek 7.VIII.**

10.00 „Popioły" — film fab. pol. cz. I; 11.45 Przerwa; 16.45 Program dnia; 16.50 Dziennik; 17.00 Teleferie; 18.30 TV Kurier Mazowiecki; 18.45 Wszechnica TV: „Nasi uczeni"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Beczułka" — nowela film. franc.; 20.30 „Kraj"; 21.10 Kino Interesujących Filmów: „Popioły" — film fab. pol. cz. II; 23.15 Dziennik.

**Sobota 8.VIII.**

10.00 „Popioły" — film fab. pol. cz. II; 12.05 Przerwa; 15.40 Program dnia; 15.45 Program tygodnia; 16.05 „Oferty"; 16.15 TV Kurs Rolniczy: „Lato 70"; 16.50 Dziennik; 17.00 Film; 17.30 Sprawozdanie z meczu piłki nożnej o Mistrzostwo I Ligi Legia (Warszawa) — Polonia (Bytom); Ok. 18.15 „Ciudad Mexico" — film Tele-Aru; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.15 „Skazana" — film fab. USA; 21.35 „Słodko, gorzko" — rep. film.; 22.00 Dziennik; 22.20 Kabaret Starszych Panów: „Niespodziewany koniec lata". Scenariusz — J. Przybora, Muzyka i reż. — J. Wasowski.




**Piątek, 31 lipca**

8.15 Film fab.; 9.35 Festiwal młodych; 14.30 Mistrzostwa ZSRR w pływaniu; 15.30 Film muzyczny; 16.00 Dla wsi; 16.20 Panorama nowin; 16.30 W świecie zwierząt; 17.30 Czas; 18.00 Turniej dociekliwych; 18.30 Film fab.; 19.45 TV Klub Robotniczy; 20.25 Artyści z Omska; 20.55 Puchar ZSRR w hippice; 21.45 Nowiny.

**Sobota, 1 sierpnia**

8.00 Program muzyczny; 8.30 Przegląd międzynarodowy; 8.45 Reportaż z muzeum teatralnego; 9.30 Ukraiński folklor w filmach animowanych; 10.30 Spektakl TV dla uczniów; 11.50 Koncert muzyki klasycznej; 12.30 Tajemnica portretu; 13.20 Film fab.; 14.45 W eterze „Młodość"; 15.15 Koncert; 15.30 Kronika półwiecza. Rok 1945; 16.30 Czas; 16.50 Wioślarskie mistrzostwa świata; 17.45 O pokój i bezpieczeństwo w Europie; 18.15 II wszechzwiązkowy festiwal zespołów tanecznych.

**Niedziela, 2 sierpnia**

8.00 Kiosk muzyczny; 8.30 Młodość ziemi; 8.50 Koncert mołdawskiej muzyki ludowej; 9.20 Filmy dokument.; 10.00 Film fab.; 11.10 Koncert muzyki klasycznej; 11.45 Spektakl teatralny; 14.30 Dla żołnierzy; 15.00 Puchar ZSRR w hippice; 16.00 Klub filmowy; 17.00 Stawka większa niż życie. 15 seria; 18.00 Czas; 18.15 Ekran dziecięcy; 18.30 Film fab.; 20.00 O muzyce i muzykach; 20.30 Wioślarskie mistrzostwa świata.

БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 140

МІКАЛАЙ ГАЙДУК



# НАРАРЖЭННЕ

*«Въ лето 1491 иде Володимеръ на ятвяги и победи ятвяги и взя землю ихъ».*
*(«Повесть временных лет», запіс пад 983 годам).*

Ветраная навала спынілася таксама нечакана, як і наскочыла. Пушча застыла ў трывожным чаканні. Цяжкі і гулкі гром няспешна пераваліўся над ёю, і з мутнага неба хлынуў струменісты дождж.

Князь Уладзімір паспешна разгарнуў прытрочаную да сядла папону, захінуў ёю сябе і каня. Калі падручны падскочыў да князя, каб паправіць на ім і на кані накрыццё, Уладзімір стаяў ужо пад невысокай разгалістай елкай, а даўжэзны, пакручасты вуж яго дружыны рассыпаўся з гасцінца, хаваючыся ад ліветю ў ельнікавы гушчар.

Грымоты суцішыліся, але дождж не спыняўся.

Да князя пад'ехаў Воўчы Хвост, ваявода, параўняўся стрэмя ў стрэмя з ім і, папраўляючы ў руках слізкія ад дажджу паводдзі, загаварыў:

— Ну і лета нам, княжа, выдалася: то суш, то гром. Нешта зямля гэтая нялaскава нас судосіць. Ці не знак ано гэта...

— Не сустрэчаю дзень мерыцца, а провадамі, — неахвотна адказаў князь. — Ты мне драгічынца — праваднікa ды таго яцвяга — снузніка, не мешкаючы, шлі.

Воўчы Хвост зумеўся на твары ад церпкага слова Уладзімірава, прыціснуў каленьмі конскія бакі і знік у лесе.

Пад аднастайны шум ліваню ў пушчы і пранікліва сыры зуд, што мурашкамі забегаў па плячах, паплылі згадкі і роздумы над сёлеташнім паходам.

Яшчэ вясною, калі Прыпяццю і Дняпром кацілася паводка, у чаўне-доўбанцы, з крэпасці, што ля вытокаў Ясельды стаяла, прыплыў у Кіеў старажавы. Адразу з чаўна ды ў княжы двор пачаў дабівацца, да яго — князя самога. Прывёў яго дзесяцкі Суд проста ў хорамы. Хацеў было Уладзімір правучыць дзесяцкага за такую нагласць, але дараваў: надта ж горка разжалабіўся старажавы.

— Княжа ты наш, Уладзімір Святаслававіч, не забывай ты нас, — вывodзіў, комкаючы ў руках кунню аблезлую вушанку. — І крэпасць спалілі, і вояў у палон пагналі...

— Хто?

— Хто ж бы, як не яцвягі. Ушчэнт усё па Ясельдзе за зіму спустошылі. Не забывай ты нас, княжа, — ляментаваў старажавы. — Мы хоць і на водшыбе, але ж языка славенскага і да цябе належым...

Ваявода і тысяцкія веснавым разводдзем ісці на яцвягаў не раілі. Чакалі, пакуль лясныя гасцінцы прасохнуць, і ў рэках роўная вада стане. Рушылі ажно ў чэрвені, на маладым месяцы. Вяшчок у капішчы па сэрцу ахвярнага жарабяці вывaражыў добры знак. «З новым месяцам, — маўляў, — тваёй дружыне па новую перамогу Дажджбог ісці раіць».

Па Дняпру, а затым па Прыпяці плылі ў лодзях да Пінеска. Затым пераселі на коней і ішлі ў Берасцень. Там, на крутым беразе Буга, Купалле святкавалі, трэбы на капішчным пагорку, ля ног постаці Дажджбога, вяршылі. Адтуль берагам Буга ўніз, па цячэнню, пайшлі да Драгічына. Ля Драгічына і станам раскінуліся: коней адпасці ды пра яцвяжскую землю праведаць.

Мокне пушча ў струменях дажджу. Набрынялая ад вільгаці папона зацвярдзела і надыбілася, стала працякаць. Па настыўшай конскай спіне забегалі дрыжыкі, і конь штораз часцей устрахваецца ўсім целам, намагаючыся пазбыцца сцякаючых па скуры халодных струменьчыкаў вады, пераміпаецца з нагі на нагу, непакоіцца.

У драгічынскіх лясах было часу і воям і моладзі на паляванні ды на рыбную лоўлю. Зубраціну і ласяціну, пасаліўшы, сушылі ў пагодныя ліпеньскія дні на сонцы, а ў непагадзь — над вогнішчамі пад паветкамі. Вядома. без сушанага мяса вою ў паходзе не абысціся: ці то на кані дабыў з троку кавалак і жуй сабе на здароўе, ці на стойбішчы, паліцай на труху пабіўшы і з вадой змяшаўшы на агні смакавітую і сытную жыўнасць заварыць мігам можна.

Ужо і коні на поймах бужанскіх ад'еліся; і дружына, адпачыўшы, харчу ў далейшы паход назапасіла, а пра яцвягаў весткі надта ж мутныя былі. Праўда, загоны дружыннікаў, што мелі разведаць найвыгаднейшыя броды ды пераходы цераз багны і рэкі па шляху ў Яцвягію і захапіць знячэўку яцвяжскіх палоннікаў, вярнуліся, але нічога пацяшальнага не прывезлі. Замест палоненых яцвяжскіх прывялі яны яцвяжскага ізгоя ды двух мальцаў — яцвяжат. Гэтыя ў пушчы заблудзіліся, за зверам нейкім пагнаўшыся, ды адбіліся ад сваіх сялібаў. Нічога сказаць толкам па сваім малалецтве не маглі. І ізгой нямнога мог паведаміць не толькі пра сілу яцвяжскую, але і пра мясціны, у якіх нарадзіўся. Яшчэ юнаком, як цвярдзіў на допытах, у часе аднаго з набегаў яцвяжскіх трапіў у палон да крывічоў. Прабыў там гады чатыры, працуючы нявольнікам. Пасля ж дружыннік-гаспадар даў яму волю і пасадзіў у сваім сяле смердам-земляробам. Пры першай нагодзе былы нявольнік вырашыў збегчы на сваю радзіму. Доўга блукаў па наднёманскіх пушчах і нетрах, пакуль трапіў у сваю воласцьпулька. Але род выракся яго, выжыў. Не хацеў мець у сваёй абшчыне таго, хто спляміў гонар крыві свайго роду палонам і працай у ворагаў. Галасіла маці, плакалі сёстры, але радавое веча было няўмольным. Вяшчок-крывайт трохкратным стукам свайго посахакрывулі пацвердзіў прысуд веча. І пандраваў ізгой-яцвяг з небагатым скарбам за плячыма: тапаром, пешняй, лязівам і іншымі бортніцкімі прыладамі ў нічыйную пушчу, што прасціралася за ракою Бобраю. Там жыў некаторы час у ізгойстве, у пушчанскай самоце, там і злапалі яго князеўскія дружыннікі.

Багата больш мог паведаміць купец драгічынскі Гасціслаў. Хадзіў ён не раз у далёкую Самбію аж да мора Варажскага, каб памяняць там серабро на прамяністыя самбійскія пацеркі з янтару-бурштыну. Гэты ведаў болей, бо і па Яцвягіі часценька вандраваў. Толькі з Гасціслава слова не выдушыш, калі вока яго жаднае залатой манетай не аслепіш.

— Што ж, княжа, хіба рушым, бо зусім адубеем тут стоячы, — азваўся Воўчы Хвост, зганяючы марава Уладзіміравых разважанняў.

Разам з ваяводам пад'ехалі купец Гасціслаў і ізгой-яцвяг ды жменька прыстаўленых да іх сторажаў з моладзі.

— Дзе б тут выгадна на стойбішча засекчыся льга было б? — звярнуўся князь да Гасціслава і яцвяга.

Тыя ціхенька перашапнуліся між сабою і Гасціслаў паведаміў:

— Вялікі княжа, у ласцы нас маючы, за стрэлы два рэчка Белая. Там і стан учыніць можна. Берагі яе ў тым месцы сухаватыя, і брод якраз...

— Добра, — спыніў яго Уладзімір. — Едзьма, а то і ноч нас застане ў гэтай чэкарадзі, — сказаў ён і падаўся на грузкі гасцінец.

Пад конскімі капытамі захлюпала раскіслая ад дажджу гліна. Прыдарожныя дрэвы насупіліся, мокрае лісце стракацела яскравым бляскам. Хвалямі налятаў імжысты дробны дождж. Дружыннікі маўчалі. Пахропвалі коні ды час ад часу дзвэнкала зброя.

І ўсё ж такі ён адважыўся пайсці паходам у Яцвягію. Калі ўжо не возьме зямлю, дык хоць рубяжы дзяржавы свае цвердзямі замацуе. Таму і ваакол Драгічына прышлося ягонай дружыне і моладзі належным чынам патупаць. Бо то і нуда людзей не заядае, і моцы ў целе прыбаўляецца. Не валаводзілі: дзядзінец цвердзі пашырылі, валы ў тры росты мужнія ўвысь падсыпалі, вастраколлем дубовым новым сцены крапасныя абліцавалі. На дзядзінцы хорам валадару крэпасці ды грыдніцу старажам узвялі. І толькі пасля таго, як лік вояў у цвердзі павялічыўся за кошт рамеснікаў і іншага вольнага люду, якіх ён, сваёй княжай воляй, у грыдзі ўзвёў, адправілі багам належныя трэбы, і ранкам наступнага дня паход рушыў у палуночным напрамку. Яшчэ на адыходзе новымі сценамі Драгічына ён залюбаваўся: на стромкай гары, над пакручастай магутнай ракою, пільна сцярог ён шляхоў путнага і рачнога. І не дзіва — Драгічын, значыць, шляхі-дарогі адчыняе. О, не! Цяпер яны для ворагаў будуць наглуха закрытымі і недаступнымі, а гасцям — купцам ахова і прыстанішча. Так, і вось ужо першы дзень паходу ў няведамую Яцвягію на зыходзе...

Дождж суняўся. Пухкі сыры туман звольна высоўваецца з долаў і багнаў, залівае звілістае русла гасцінца. Нізка, над самай зямлёй, вынырае з яго нейкі цень і бесшалеснымі ўзмахамі крылляў набліжаецца насустрач коннікам. Звочыўшы іх, падрываецца ўверх і паспешна нікне ў чорных кронах прыдарожных дрэў. Гэта сава пачала сваё вячэрняе паляванне.

Нанач засекліся на выжары над ракою Белаю. Выставілі атрады старажоў, абсушыліся пры вогнішчах, перакусілі.

Ужо лежачы на разасланым на ялінавых галінках конскім потніку, падсунуўшы пад галаву сядло, глядзеў ён у тонь ліпеньскага неба і слухаў, як звольна заціхае стойбішча, а рэдкія пярэклікі старажоў штораз больш аддаляюцца і глохнуць у сутоннях пушчы. Так, сённяшнім днём ён здаволены: сама меней попрышчаў паўтара адолелі, так, паўтара, пэўне...

Ранак выдаўся росны, крамяны здаровым халадком. Гэта на пагоду, не інакш.

Уладзімір не чакаў, пакуль падручныя нарыхтуюць снедзь ранішнюю. Прыняўшы сказ военачальніка начной аховы, што ўсё было спакойна і нідзе нікога не заўважана, князь выйшаў з засеку, каб зірнуць на наваколле.

(Працяг на стар. 4)



## ЛЮДСКАЯ СЫРАВІНА

Сонца спякло пейзаж
агаркі травы
як мядзяныя стружкі
на цемені ўзгорка
круцяцца
з мяне пот
як з сасновых ствалоў
жывіца
гляджу
я абстаўлены збанкамі
разглядаю карнеты
на збанках
цікаўная літаратура
матывы эксплуатацыі
поту

аказваецца

пот
адвечна пашуківанай
сыравінаю

## НАВЫВАРАТ

Слова адзеннем замеру
не пранікае цераз яго
подмух ацэнкі
словамі
як слаямі дрэва
абвіваецца
прыватнае я
кожны рух
да людзей
разрэзваюць напалову
мо угледзіцца ядро
значэння

*Яша Бурш*



## СВЯТАЯ ПРАЎДА

*(Аўтару «Святой студні»)*

Мудрасць народа — вечнае багацце.
У філасофіі жывой крыніцы
Не проста зачарпнуць рукою і напіцца, —
Як адказаць пракляццем на распяцце.

Бо існуе ў народзе кветка шчасця, —
Жаданняў і надзей — вянок міфічны.
Жыццё ў труне змагае нарадзіцца,
Спазнаўшы смерць — канца двузначнасць.

Яе не нам геаметрычнай формай
Вабіць у храм, дзе з песняй салаўінай
Плач далятае з пякельнай краіны...

Дзе Крым, дзе Рым... А дзе мая Айчына?
З высокіх гор зыйдзі, брат, у даліну,
А стрэнешся заўжды з сваім народам.



## У ВЯСЕННІ ВЕЧАР

Каля бярозы, ў вясенні вечар,
Пяюць дзяўчаты песню за песняй...
Ў вясенні вечар.

Хто ж гэты голас пачуць павінен:
Месяц, ці зоры, ці той адзіны
Пачуць павінен?

А ён лясною ідзе сцяжынай
І чуе: рэха за ім няспынна
Ідзе сцяжынай.

«Калі з дарогі, то прывітаю,
Ці прыдзеш ноччу, ці ясным раннем...»
То прывітаю.

Маё каханне, як тая песня,
Каля бярозы ў вясенні вечар...
Як тая песня.

*Уладзімір Гайдук*

## КАБ ВЕДАЎ

Падкідваюць рукі
Угору суседа.
Каб ён знаў аб гэтым,
Каб аб гэтым ведаў.

Каб пачуў калісьці
Аб сабе размову.
Не ўсё адразу,
А хаця б палову.

Аб жыцці супольным,
Аб сям'і ягонай,
Як яго рабілі
«Белаю» варонай.

Як душой крывілі,
Як капалі ямкі,
А цяпер, здаецца,
Узялі б у рамкі.

Кожны ёсць ахвочы,
Падбягае шпарка,
Заглядае ў вочы,
Стукаецца чаркай.

— Што было прычынай? —
Кожны запытае.
— Хай глядзіць вачыма,
Мо сябе пазнае.

## МОЙ КОНЬ

Мой конь без крылаў,
малады,
хоць запрашаюць
неба далі,
трымаю моцна
павады.
Каб біў капытамі
зямлю,
а іскры — словы
высякалі
яго жалезныя падковы.

*Л. Танкевіч*






## УЗДОЎЖ РАКІ НАРВЫ

У цёплую, летнюю пару найлепш падарожнічаць рэчкамі. Выбраў я на гэты раз раку Нарву. Па Нарве найлепш улетку падарожнічаць байдаркай (каякам). Сядаю тады ў байдарку і плыву спакойным руслом паміж пахучымі лозамі, бабкай і свежай травою, яе берагамі.

За Канюкамі цягнецца па левым баку рэчкі плёскаўскі лес. У лесе арганізавала свой летні лагер беластоцкае прадпрыемства аўтобуснай камунікацыі (ПКС). У густым непраходным маладняку заведзены новы парадак, пароблены роўненькія асфальтныя дарожкі, у найбольшым гушчары паміж соснамі пабудаваны маленькія турыстычныя хаткі. Унутры хатак, так як і ў наваколлі, усё надта чыста і эстэтычна, лагер электрыфікаваны, пасярэдзіне выкапана глыбокая студня са свежай здаровай вадою.

Рака ў гэтым месцы перагароджана дзвюма плаваючымі навярху, каляровымі вяроўкамі, якія абазначаюць месца купання для дзяцей. Па плыткай вадзе шалее беластоцкая дзетвара, гул і плёскат разносіцца на ўсю ваколіцу. Прычальваюся ля плыткага берага і выходжу пагутарыць з адпачываючымі тут людзьмі.

Людзі задаволены адпачынкам і прыгожай наднараўскай ваколіцай. «Лепш і быць не можа, — тлумачаць, — тут і прыгожа: вада, лес, пясок, і недалёка ад хаты, і танна». За летні домік ПКС-у плацяць усяго па 75 злотых за 2 тыдні пабыўкі ў плёскаўскім лесе. Абеды штодзённа прывозіць ім з Беластока іх прадпрыемства ў цане па 15 зл. за абед. Жанчыны ходзяць за пакупкамі ў вёскі, што ляжаць непадалёк ад Плёскаў.

Па другі бок моста, што на шашы Беласток — Бельск, у ляску ля вёскі Войшкі — другі лагер, які з'яўляецца ўласнасцю бельскага аддзялення ПТТК (Польскае турыстычна-краязнаўчае таварыства). Парадак тут значна меншы, чымсьці ў лагеры ПКС-у, домікі бедныя і неэстэтычныя. Да таго тутэйшыя турысты вядуць сябе вельмі непрыстойна: увесь прыгожы бераг Нарвы засмечаны безнадзейна паперай, банкамі ад кансерваў, кавалкамі недаедзенай рыбы і г. д. Наведвальнікі гэтага лагера выпадковыя — прыязджаюць сюды на дзень, на два, начуюць адну — дзве ночы і едуць далей. Найчасцей гэта бываюць жыхары Бельска і Беластока, якія праводзяць над вадою свабодны ад працы дзень. Асабліва людна тут у суботу, многія жыхары гарадоў прыязджаюць, каб правесці над Нарваю суботні вечар і нядзелю.

Ніжэй Войшкаў Нарва плыве крутымі паваротамі, буйна парослымі лазою і чаротам. Над абрывістымі берагамі сядзяць рыбакі, у сонным спакою ўглядаюцца ў цёмную плынь. Голы дзядзька, тоўсты, як бочка, грае на гармоніку, прыспеўваючы і прытупваючы босай нагой. Побач жанчыны ў пляжных касцюмах грэюць на сонцы тлустыя сцёгны, дзетвара хеўраю бяжыць недзе па беразе. Непадалёк, ля дарогі, аўтамашына тоўстага дзядзькі — музыканта і яго сям'і. На палях мясцовыя сяляне пры агародніх працах — выбіраюць трускалкі, полюць капусту. Сяляне тут больш цікавяцца сваімі агародамі, чымсьці палявымі культурамі. І слушна. Агародніна прыносіць сялянам зараз добрыя даходы.

Сяляне перарываюць на момант працу і ўглядаюцца на тоўстага дзядзьку -музыканта, на рэчку, па якой плывуць байдаркі. Глядзяць з цікаўнасцю, але без здзіўлення. Бяздзейнасць турыстаў у летні рабочы час даўно перастала сялян здзіўляць. Вядома, кожны жыве па-свойму, па-свойму працуе і па-свойму адпачывае.

На беразе пачалася калатня. Ураднік рачной службы злавіў рыбака, які вудзіў рыбу без рыбацкага білета. Будзе ён фінансава пакараны. І слушна. Лоўля рыбы з'яўляецца зараз прыемнасцю самой у сабе. Дазвол на лоўлю без абмежаванняў знішчыў бы хутка рыбныя запасы ракі. Усялякая прыемнасць сёння каштуе — прыемнасць рыбной лоўлі таксама. Прыемнасць ляжання над рэчкай Нарвай пакуль што нічога не каштуе. Але павінна каштаваць злоўжыванне гэтай прыемнасцю — нязноснае засмечванне рачных берагоў рознымі адкідамі і смеццем. Павінны за гэта таксама караць.

Ул. ПАЎЛЮЧУК



## УСЕ КОЛЕРЫ ЖЫЦЦЯ

— Жывем усімі колерамі жыцця, — пацвердзіў мгр Уладзімір Пугаўко, прэзас беластоцкай кааперацыі працы. Гутарка з ім — гэта гутарка з чалавекам, у руках якога збягаюцца ніткі амаль васьмідзесяці працэнтаў усіх паслуг для насельніцтва Беласточчыны і дваццаці працэнтаў агульнай прамысловай вытворчасці ў ваяводстве. Тымі колерамі жыцця з'яўляюцца розныя кааператывы: ад чыста паслуговых да прамысловых, ад кааператыву лекараў з прафесарскімі тытуламі і да кааператыву камінароў.

— Якія падставовыя недахопы ў нашым гаспадаранні? — задумаўся прэзас. — Найбольшым гняздом недахопаў трэба лічыць арганізацыю вытворчасці. Хаця датычыць гэта мінулага года, але хвасты цягнуцца... Шмат у гэтай арганізацыі стыхійнасці, адвольнасці, рэгіянальных вырашэнняў і не ўлічвання здабыткаў навукі. Следам ідзе недахоп адпаведных кадраў: дазарэзу патрэбны інжынеры такіх прамысловых спецыяльнасцей, як абутковая, гарбарная, галантэрэйная, канфекцыйная. Замест іх маем інжынера-электроніка, ба, нават спецыяліста па вырабу ракет ці ўзбраення... Вядома, працуюць яны не па сваёй спецыяльнасці. (Вышэйшыя школы ўсё яшчэ замала лічацца з патрэбамі эканомікі). Гаварыў я аб стыхійнасці. Яна найбольш відавочная ў арганізацыі заказаў ды збыту. Кааператывы падпісваюць на Познанскім кірмашы дагаворы, згодна з якімі адпаведныя гандлёвыя фірмы заказваюць у іх цэлую гадавую прадукцыю. Заказы, значыць, ёсць і арцель працуе. Нібы ўсё ў парадку. Але нечакана і замежны гандаль захацеў заказаць у данай арцелі акрэсленую колькасць яе вырабаў. На жаль, няма магчымасці выканаць такі вартасны, бо дэвізавы заказ: усе вытворчыя моцы ўжо «абкладзены» познанскімі дагаворамі, рэалізацыя якіх абавязковая пад страхам вялікай кары! І будзь тут разумны разгарнуць экспартную прадукцыю! Ці ж гэта не стыхійнасць? Ці ж гэта не выпадковасць? А кары... Адзін з кааператываў заплаціў такой кары на суму каля чатырох мільёнаў злотых!! Ці ж нельга было б, у інтарэсах разгортвання патрэбнай краіне экспартнай прадукцыі, зрабіць вось гэтак: кааператыў, які атрымоўвае заказ на экспартную прадукцыю не павінен адмаўляцца ад яе, але мець магчымасць аўтаматычна паменшыць (адпаведна) прадукцыю, робленую на ўнутраны рынак па познанскаму дагавору - заказу? А так заказы на экспарт паяўляюцца, пераважна, запозна...

— Якая наша будучыня? Вытворчыя магутнасці нарастаюць і вынікаюць цалкам рэальныя магчымасці змяншэння сабекоштаў шляхам канцэнтрацыі і спецыялізацыі вытворчасці. З мноства спецыялістычных, але дробных кааператываў утвараем адзін, вялікі кааператыў, здольны даць прадукцыю і таннейшую. і лепшую. Каб даваць добрыя вырабы і мець добры збыт іх — трэба ўкласці добрыя капіталы, не абы-якія. Да таго здольныя толькі вялікія кааператыўныя адзінкі. Для прыкладу назаву кааператыў «Бэтэска», створаны некалі Беларускім таварыствам, які зараз аб'яднаў два іншыя кааператывы і дасягае ўжо амаль шасцідзесяцімільённага абароту.

Ёсць такая прымаўка: вучыся, вучыся, і дурнем памрэш. Жарт у гэтай прымаўцы толькі павярхоўны, у ёй глыбокая рацыя, як і ў многіх іншых народных мудрасцях. Хачу тут сказаць, што нашага руху наперад не забяспечаць адны фінансы ці арганізацыйныя ўдасканаленні: трэба вучыцца і пераймаць вопыт лепшых наватараў вытворчасці адусюль! Робім націск на фарсіраваную вучобу персаналу, асабліва персаналу эканамічнай галіны.

Словам, канцэнтрацыя вытворчасці, канцэнтраваная спецыялізацыя яе ды безупыннае паглыбленне ведаў. Вось нашае крэда! Вось нашыя крыніцы, з якіх штораз шырэй разліваецца кааператыўная дзейнасць, праца.

*Гутарыў — С. ЯНОВІЧ*

## СУСТРЭЧА
## З ГЕРМАНСКІМІ СЯБРАМІ

У рэпарцёрскім падарожжы мы наведалі аўгустоўскую зямлю, летнюю сталіцу Беласточчыны. Можна толькі паўтарыць за ўжо даўно сказаным, што тут цудоўна. Прыгожыя азёры, цудоўная пушча, а ў ёй шмат ягад. У рэстаранах Аўгустова можна хутка і смачна паесці.

Але найлепш усё смакуе ў лагеры. Над возерам Сервы ў Сухой Рэчцы разбіў свае палаткі гарцэрскі лагер шчэпу «Бліскавіца» з Беластока. У лагеры 119 гарцэраў і 15 інструктараў — людзей розных прафесій (настаўнікі, студэнты, інжынеры). Сярод удзельнікаў лагера шматлікая група дзяцей інвалідаў-сляпых. Нягледзячы на тое, што многія з іх нават не гарцэры, пабываюць яны тут у лагеры. Гарцэрскі шчэп «Бліскавіца», які дзейнічае пры школе № 4 у Беластоку ўжо некалькі год апякуецца дзецьмі гэтых інвалідаў.

Час нашага прыезду ў лагер збегся з прывітаннем удзельнікамі лагера членаў 9-асабовай дэлегацыі студэнтак Педагагічнага інстытута з Гале (ГДР). Пабыўка студэнтак у нашым ваяводстве будзе працягвацца 28 дзён. Дэлегацыя студэнтаў беластоцкай філіі Варшаўскага універсітэта столькі ж часу будзе ў ГДР.

Падзяліцца ўражаннямі з чытачамі «Нівы» мы папрасілі апекуна германскай дэлегацыі, навуковага супрацоўніка Інстытута ў Гале п. Гінтэра Нойнібеля:

—Першае, што я павінен сказаць, гэта вельмі сардэчныя, цёплыя сустрэчы нашай дэлегацыі. На Беласточчыне мы ад 2-га ліпеня. Некалькі дзён наша дэлегацыя прабывала ў філіі Варшаўскага універсітэта ў Беластоку, пабывалі мы ў Акруговым метадычным цэнтры, наведалі дзіцячы дом. Пазнаёміліся са студэнтамі ў зэтэмэсаўскім лагеры ў Борках каля Аўгустова.

— Уражанні?! Мы адчулі і ўбачылі, што польская моладзь вельмі сардэчная і ветлівая. Гэта мы назіралі ўсюды. Нам вельмі спадабалася тое, што ў лагерах, якія мы наведалі, пануе з аднаго боку дысцыпліна, а з другога — уласцівая, сяброўская атмасфера.

— Мэта нашай пабыўкі у Польшчы — гэта знаёмства з тутэйшымі формамі адпачынку дзяцей і моладзі. Яшчэ ў нас у плане наведанне лагера ў Супраслі, пабыўка ў гуфцы працы, праца ў надлясніцтве, а таксама мы прымем удзел у вандроўным лагеры да Белавежы. Хочам убачыць многа, каб потым змагчы параўнаць з нашымі формамі адпачынку.

Нашых студэнтак мы прыдзяляем да паасобных лагерных груп і яны перадаюць польскай моладзі ад сябе нашыя гульні. Адначасова самі знаёмяцца з формамі працы лагераў у Польшчы. Кожная з нашых студэнтак мае спецыяльны апытальнік (анкету) і на пытанні, якія знаходзяцца там, мусіць тут шукаць адказаў. Апрацаваныя анкеты і пабыўка ў вашых лагерах і іншых пляцоўках летняга адпачынку будзе залічана ў абавязковую практыку студэнтак.

Характарызуючы групу студэнтак, п. Г. Нойнібель сказаў, што дэлегацыю складаюць найлепшыя студэнткі інстытута, якія былі перадавымі ў працы з піянерамі. Неабходна дадаць, што ў ГДР усе студэнты з'яўляюцца членамі маладзёжнай арганізацыі FDJ. Усе студэнты інстытута пасля першага курса выязджаюць у піянерскія лагеры, дзе праходзяць практыку, працуючы як выхаваўцы.

Размову спыняем, бо якраз на лагерным панадворку паявіліся гарцэры з поўнымі вёдрамі ляснога руна — чорных ягад. Будуць яны прададзены спулдзельні «Лес», а частка даходу пойдзе на фонд дапамогі в'етнамскім дзецям.

А. КАРПЮК
*Фота аўтара*



*Дэлегацыя ГДР знаёміцца з лагерам «Бліскавіца».*




## РЭПАРТАЖЫ ПРА НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ МЕНШАСЦІ

Нядаўна літаратурнае выдавецтва ў Кракаве выпусціла чарговы зборнік рэпартажаў Ежы Лёвеля п. з. «Польшча, якой не ведаем» *). Гэта зборнік поўнасцю прысвечаны нацыянальным меншасцям, пражываючым зараз у Польшчы. Для інфармацыі падаем, што чытач знойдзе ў зборніку рэпартажы пра беларусаў, украінцаў, яўрэяў, славакаў і літоўцаў. Каб у нейкай меры сканфрантаваць праблемы нацыянальных меншасцей, аўтар дае рэпартаж пра палякаў на Заользі, якія з'яўляюцца нацыянальнай меншасцю ў Чэхаславакіі.

Інфармуючы аб новым выдавецтве, хочацца звярнуць увагу на той факт, што аўтар упершыню ў Польшчы так шырока патрактаваў праблематыку нацыянальных меншасцей. Публікацыя Лёвеля, як сам піша, гэта спроба: пазнаёміць польскага чытача з новымі грамадскімі з'явамі, вельмі важнымі для нацыянальнага жыцця і развіцця нацыянальнай ідэі. Аўтар сцвярджае, што праблематыка нацыянальных меншасцей у польскай дзяржаўнасці такая старая, як старая польская дзяржаўнасць. Зусім новае вырашэнне гэтай праблематыкі праклямаваў Маніфест ПКВН, ствараючы канцэпцыю вяртання Польскай дзяржаўнасці да этнічных граніц, выключаючы дзякуючы гэтаму тэрытарыяльныя і нацыянальныя нязгоды. Аднак, як кожная вялікая справа, так і гэтая, мела на працягу яе рэалізацыі пэўныя недакладнасці і хібы. Е. Лёвель вылучае тры групы гэтых хібаў і недакладнасцей. Гаворачы аб аднанацыянальнасці дзяржавы, аўтар сцвярджае, што дзяржава абсалютна аднанацыянальная зараз проста немагчымая па той прычыне, што адбыліся на свеце вялікія ваенныя міграцыі насельніцтва і што граніцы адыгрываюць штораз меншую ролю. Другая група спраў — гэта тое, што рэалізацыя Маніфеста, асабліва ў пазнейшых гадах, праводзілася неяк механічна. Лічылася, што быццам бы самая рэгуляцыя граніцы і перасяленне насельніцтва самі па сабе астаткова і назаўсёды вырашылі праблему. І трэцяя група — гэта акупацыйныя комплексы, а потым рэвалюцыйная «грамадзянская вайна». Тут нацыянальныя меншасці стаялі часам на адным, часам на другім баку, а гэта спрыяла спрашчэнню — спалучаліся паняцці нацыі з класавымі ці палітычнымі паняццямі. І гэта даўжэйшы час заставалася так як ёсць, без змен. Іменна ў гэты перыяд, сцвярджае Е. Лёвель, засталося найбольш траўмаў, гэта найбліжэйшы, найбольш свежы і найбольш захаваны ў памяці перыяд.

У след за пастановай Сакратарыята ЦК у нацыянальных справах з красавіка 1957 года пайшлі дзяржаўныя датацыі для нацыянальных таварыстваў, наступіла развіццё школьніцтва, прэсы, аматарскіх калектываў. Але адначасова з гэтым выйшлі на яву адмоўныя вынікі даўнейшых прамаўчанняў; людзі, якія атрымалі магчымасць падкрэсліваць у грамадстве сваю нацыянальнасць пачалі стаўляць жаданні: разлічыцца з мінуўшчынай, рэабілітацыі, часта будучы суб'ектыўнымі, несправядлівымі.

Аўтар рэпартажаў піша, што «гэты перыяд маем за сабой, але гэта не абазначае, што зроблена ўжо ўсё. Зроблена ў асноўным не многа, але зроблены добры пачатак. Не ўяўляю сабе свядомай, спелай нацыянальнай палітыкі без абапірання яе на праверaных, аб'ектыўных, выводзячыхся з добрых крыніц працах з галіны навейшай гісторыі... а таксама на шырокай папулярызатарскай акцыі».

Публікацыя Е. Лёвеля, здаецца, спаўняе папулярызатарскую ролю, адкрываючы, асабліва маладому пакаленню Польшчы, вочы на той факт, што беларусы, літоўцы ці ўкраінцы жывуць не толькі за мяжой, але ў Польшчы, можа часта побач іх, у Польшчы, якая з'яўляецца адной айчынай. Але адначасова вывады Лёвеля сведчаць аб тым, што справай нацыянальных меншасцей у Польшчы трэба надалей і больш глыбока займацца.

А. КАРПЮК

*) J. Lowell. Polska, jakiej nie znamy, Wydawnictwo Literackie, Kraków 1970 r., cena 15 zł.

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
# ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### КУРАЦІНА

Разгар лета. Гародніны ядзім як мага больш. І добра робім. Аднак і мяска часамі захочацца. Менавіта тады прапануем зрабіць на абед кураня. Кураня найсмачнейшае на другі дзень пасля таго, як яго заб'юць...

А вось некалькі рэцэптаў на смачнае кураня.

*Кураня фаршыраванае, у смятанным соўсе.* Перш за ўсё ачышчанае кураня трэба дакладна вымыць зверху і ў сярэдзіне. Пасаліўшы яго (таксама зверху і ў сярэдзіне), напаўняем фаршам. Фарш гэты робім з булкі, намочанай у малацэ, якую, выціснуўшы, старанна расціраем з маслам і сырой курынай пячонкай, дадаем укропу альбо пятрушкі (але ніколі ўкропу і пятрушкі разам, бо адно другому сапсуе арамат), а таксама солі і цукру па смаку.

Кураня з фаршам зашываем, кладзем у каструльку з маслам, даліваем крыху вады і тушым пад крышкай. За 15 мінут да канца тушэння (а кураня патрабуе на гэта каля гадзіны) дадаем некалькі лыжак смятаны.

Падаем кураня, падзеленае на порцыі і пасыпаем зелянінай.

*Кураня з гароднінай.* Кураня дзелім на 4 часткі, солім. 2 ачышчаныя морквы, 1 пятрушку, 1 селер сціраем на бурачанай тарцы, 2 поры нарэзваем кружочкамі.

Мяса кураняці ўкладаем у каструлю, перасыпаючы гароднінай, солім, даліваем шклянку гарачай вады, дадаем кавалачак масла, прыкрываем і тушым на слабым агні мінут 45.

Падаем кураня з рысавай кашай, вымяшанай з маслам.

Калі ў вас пад рукой аказалася не кураня, а курыца, — таксама не бяда. І курыцу можна зрабіць неяк цікавей, а не традыцыйным спосабам — вараную і падсмажаную.

*Курыца з гароднінай.* Дзелім курыцу на кавалкі. На дно каструлі кладзем некалькі кавалачкаў капчонай грудзінкі (бочку) больш-менш так, каб яны прыкрылі дно. На гэта кладзем даволі многа тонка нарэзанай гародніны — морквы, пятрушкі, селера, пора, цыбулі, — перамешанай з кавалачкамі звычайнай або сырой польскай кілбасы. Пасля кладзем кавалкі курыцы. Прыкрываем яе наступным пластом гародніны. На верх кладзем кавалачак масла. Ставім патраву на невялікім агні і тушым, пакуль аж курыца не стане мяккая. Калі б соўсу атрымалася мала, і курыца магла б прыгарэць, трэба даліць крыху вады.

*Курыца па-бургундску* атрымалася б у нас, калі б мы дадалі яшчэ да гародніны часнаку, а замест вады далілі б да патравы сухога (вытраўнага) чырвонага віна (паўшклянкі). Гэтую патраву можна адаграваць пасля, больш таго — чым больш адаграваем — тым смачнейшая.

*Гаспадыня*

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### МЫЙЦЕ САМАЛЁТ МЫЛАМ!

Інжынеры авіякампаніі «Эр Франс» устанавілі, што нават самы тонкі пласт пылу на паверхні самалёта змяншае яго абцякальнасць і павялічвае расход гаручага на такім кароткім перагоне, як Парыж — Лондан, на паўтоны.

Чысціня — залог... эканоміі?

### НЕЗВЫЧАЙНАЯ РЫБНАЯ ЛОЎЛЯ

У 1494 годзе іспанскія канкістадары былі незвычайна здзіўлены, убачыўшы ля берагоў Кубы вельмі своеасаблівую рыбную лоўлю. Замест кручкоў і сетак індзейцы закідвалі за борт лодкі рыбу-прыліпалу, да хваста якой была прывязана вяроўка. У празрыстай вадзе было добра бачна, як прыліпала накіроўвалася да сваёй ахвяры і прысмоктвалася. А рыбалоў вытраўляў вяроўку да таго часу, пакуль здабыча не стамлялася, і потым падводзіў яе да берагу. Як высветлілася потым, мясцовыя жыхары лавілі гэтых рыбак яшчэ маленькімі, трымалі ў салёнай вадзе і падкормлівалі. Калі прыліпалы падрасталі, з імі адпраўляліся на лоўлю вялікай рыбы і чарапах. Такім метадам лавілі і самых вялікіх траваедных жывёлін — манатаў.

Ноччу рыбак нярэдка лавіў рыбу на светлячкоў, якія выпраменьвалі вельмі моцнае святло.

## ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ


Амерыканскія авіятары падвешваюць «Малога хлопчыка».

# СЕДАН XX СТАГОДДЗЯ


Атамны выбух над Нагасакі.

Розныя сімвалы паражэнняў, катастроф, катаклізмаў... Розныя, у залежнасці ад гістарычных перыядаў, эпох, узроўню развіцця чалавецтва.

Седан. Назва гэтага французскага мястэчка над рэчкаю Мёз шмат год з'яўлялася сімвалам разгрому. 31 жніўня 1870 года пад Седанам адпачывала 120-тысячная французская армія. Неўзабаве акружылі яе пераважаючыя сілы нямецкай арміі. Гэта было ў французска-прускую вайну. У бітве загінула або было паранена 17 тысяч французкіх салдат. Немцы страцілі дзевяць тысяч. Веліч страт напалохала імператара французаў, Напалеона III, які знаходзіўся ў акружанай арміі. 2 верасня 1870 г. імператар прыняў пастанову аб капітуляцыі.

26 тысяч ахвяр, паўшых на полі бою, з'явілася сімвалам катаклізму. Да бітвы пад Вердэн, на палях Латарынгіі. Бітва цягнулася амаль 10 месяцаў, закончылася ў снежні 1916 года. У гэтай гіганцкай пазіцыйнай бітве загінула па абодвух баках фронту каля сямісот тысяч салдат!

Ваенныя дзеянні ў першую сусветную вайну адбываліся на тэрыторыі чатырох мільёнаў квадратных кіламетраў. Дзеянні ў другую сусветную вайну адбываліся на тэрыторыі 22 мільёнаў квадратных кіламетраў.

30 жніўня 1914 года адбылася першая ў гісторыі бамбардзіроўка цывільнага насельніцтва. У нядзелю, перад абедам, нямецкі лётчык фон Хідэсэн кінуў на парыжскія вуліцы пяць гранат і адляцеў. Праз трыццаць адзін год пасля гэтага, уночы 14 лютага 1945 года, васемсот брытанскіх самалётаў скінула на Дрэздэн 650 тысяч бомб, запальных і разрыўных.

Вялікая вайна заціхла ў Еўропе. Яе зарыва датлявала ў Азіі. Трымалася Японія. 6 жніўня над горадам Хірасіма паявіўся самотны цяжкі амерыканскі самалёт Б-29. На яго барту «Малы хлопчык» — так нявінна назвалі першую атамную бомбу. «Малы хлопчык» змёў Хірасіму з твару зямлі. Яго выбух быў патрэбны не столькі для таго, каб дабіць канаючую Японію, колькі для таго, каб запалохаць Саюз ССР і схіліць да ўступак у перагаворах. Хірасіма налічвала 255 тысяч жыхароў. Загінула ад выбуху «Малога хлопчыка» 78 тысяч, прызнана прапаўшымі 14 тысяч асоб, 37 з паловаю тысяч было цяжка паранена. На 75 тысяч будынкаў 7 тысяч з іх рассыпалася, 55 тысяч згарэла. Знішчэнне адбылося на паверхні 12 квадратных кіламетраў. Праз тры дні такая ж бомба знішчыла, зусім без сэнсу, другі японскі горад, Нагасакі.

Вось карціна Седана 1945 года. Хірасіма і Нагасакі. (ся)


Хірасіма пасля выбуху атамнай бомбы.

*Летам 1941 года* (4)

У папярэдніх трох артыкулах апісалі мы крывавы рэйд гітлераўскага паліцэйскага батальёна 322 па Беластоку і наваколлі Белавежы. Дзеля гэтага выкарысталі мы афіцыяльныя запіскі гітлераўскага афіцэра паліцыі, які таксама ахвотна сам рассяваў смерць на «хвалу фюрэру і вялікаму рэйху».

Ад гэтага часу, як лёгка палічыць, мінула ўжо амаль 30 год. Усе вёскі, якія знішчылі галаварэзы з 322 батальёна, зноў сёння бурляць жыццём. Вырасла ў іх цэлае новае пакаленне. Балючыя раны, якія засталіся ў сэрцах, крыху ўжо прытухлі, боль адзываецца не так часта.

Ці варта, ці можна тады кранаць гэтыя раны няпрошанымі ўспамінамі? Думаю, што і варта, і можна, і трэба! Асабліва цяпер, калі ў нашым неспакойным свеце недзе штораз паяўляюцца падобныя галаварэзы.




Тое, што тварылася 30 год таму назад у Белавежскай пушчы, зараз творыцца ў В'етнамскай, Камбаджанскай, Лаоскай пушчах і на пясках Блізкага Усходу, а ў самой Заходняй Нямеччыне безупынна крычаць: «Граніца на Одры і Нысе — ніколі!»

Дык нельга забываць пра зверствы, трэба ведаць, хто гэтыя зверствы тварыў, а іх прозвішчы пераказваць дзецям і ўнукам. Вось яны, прынамсі важнейшыя сярод галаварэзаў з паліцэйскага гітлераўскага батальёна 322, якія летам 1941 года «гулялі» па Беласточчыне:

НАДЭЛЬ — камандзір батальёна 322, маёр, пазней падпалкоўнік (аванс за «заслугі» на Беласточчыне і Беларусі атрымаў ён як святочны падарунак на Каляды 1941 г.) — оберст-лёйтнант дэр шуцполіцай;

капітаны (гаўптман дэр шуцполіцай): *Бінц* (камандзір 2. роты), *Іорке*, *Ліпман* і ад 31. І. 1942 — *Фромбсдорф*, дагэтуль быў ён аберлёйтнантам, таксама *Кольсат* і *Рыбэль*;

оберлёйтнанты: *Рашэ*, *Рэдэкэр*, *Мальш*, *Уль* (Uhl) — той самы, які меў абавязак весці «ваенны дзённік»;

лёйтнанты: *Бушэ*, *Хайнц*, *Гюльсман Гэрд*, *Вольф*, *Гібнэр*, *Кэрн*, *Рот Хайнц*, *Вацэк*;

доктар батальёна — др *Бергер*;

унтэрафіцэры (майстар дэр шуцполіцай): *Шульц Вільгельм*, *Вабэрзэн*: гаўптвахтмайстры: *Бухакэр*, *Алёйз*, *Гохгольцэ*, *Гунгэндорфэр*, *Катэнштрот Гуго*, *Эцэльбергэр*, *Пайнбаўэр*, *Рэбергер*.

Апрача іх, ведаем яшчэ прозвішчы нейкіх 60-ці іх камратаў, якія прымалі актыўны ўдзел у розных зверствах на тэрыторыі Беласточчыны і Беларусі. Запісаў нам іх оберлёйтнант Уль.

Пераважная колькасць сярод іх, можна меркаваць, знайшла сабе прытулак недзе ў Заходняй Нямеччыне і жывуць яны там, як прыкладныя грамадзяне. Некаторыя, магчыма, засталіся верныя сваёй «прафесіі» і перадаюць паліцэйскі вопыт малодшым калегам.

Дык хай свет, хай іх дзеці і суседзі ведаюць, што ў іх на руках кроў у нічым не вінаватых людзей, кроў спакойнага беларускага люду, кроў яўрэйяў, палякаў і рускіх.

Хай і яны ведаюць, што сіроты ў Польшчы, БССР і Югаславіі (туды таксама завандраваў праслаўлены батальён) праклінаюць іх па сённяшні дзень, што натворанай імі бяды нельга ніколі забыць.

ВІКТАР РУДЧЫК

# ТРЫБУНА чытачоў

### НЯДБАЛЬСТВА

Вялікія абшары тарфяных сенажацяў знаходзяцца на аб'екце Руда-Зацісаўка. Належаць да гэтага аб'екта 7 вёсак. Загаспадарана ўжо тут амаль 300 гектараў. Кіраўніком меліярацыйных работ гэтага аб'екта з'яўляецца грам. Кушнярэвіч. Да яго многія сяляне маюць вялікія прэтэнзіі, бо значная частка травы засеяна ў канцы кастрычніка 1969 года. А гэта вельмі позна. Парасла там вялікая крапіва і іншае пустазелле. У бягучым годзе, відавочна, сітуацыя не палепшыцца, бо ён яшчэ не падумаў аб пасеве траў і, здаецца, зноў адкладае да позняй восені. Тут відаць праўдзівы праяў бракаробства, бо на месцы бур'яну ўжо павінна быць два або і тры пакосы сакавітае травы.

*М. Краўчук*

### МАЯ МАМА

Аб мачахах часта кажуць, што яны сваіх родных дзяцей лепш даглядаюць, больш кахаюць. Чуваць нават, што чуюцца пакрыўджанымі няродныя дзеці, бо мачаха назаўдае для бацькі, што сын або дачка непаслухмяныя, многа ядзяць, капрызныя і г. д. А часам здараецца, што мачаха б'е гэтае дзіцё, горш корміць і адзявае, і віну за ўсё звальвае на яго. Бывае так, напэўна. Але бывае і інакш. Бывае, што дзіцё нічога не адчувае, што маці няродная. Напрыклад, Геня Ягнешка з Паўночнага Вострава (Сакольскі павет) не помніць свае маці. Памярла яна падчас пароду Гені. Няпоўны год выхоўвала яе бабуля. А пасля бацька ажаніўся, стала апекавацца ёю Надзя Ягнешка. Зараз Гені 17 год. І за гэтых 17 год Геня ані разу не адчула, што гэта яе няродная маці.

— Яна ўвесь час акружала мяне сапраўднай мацярынскай цеплатой нароўні з роднымі дзецьмі. Гэта мая мама. Я яе называю мамаю, бо яна мяне вырасціла, яна мяне шкадуе. І яе я кахаю так, як кожная дачка.

Гэта словы Гені Ягнешка. (мх)

### АДНА Ў ВЁСЦЫ

Уцякае моладзь з вёсак. Не многа маладых людзей застаецца на гаспадарцы бацькоў, каб разам з імі і пасля іх займацца сельскагаспадарчай вытворчасцю. А ў Старой Грыбоўшчыне, што ў Сакольскім павеце, у вёсцы ёсць толькі адна 18-цігадовавя дзяўчына Галя Русэль. Памагае яна працаваць бацькам на гаспадарцы. Гаспадарка вялікая, ды зямля скамасавана, не раскінута па вузкіх і доўгіх кусочках. Жыць ёсць на чым.

Такія аднак, як яна, пайшлі ў горад і там працуюць. Працуюць і задаволены, хаця нямнога зарабляюць. Яны ж жыхары горада, і калі прыязджаюць да хаты па сала, спатыкаюцца з Галяй і расказваюць аб усім тым, з чым Галя незнаёма.

І Галі таксама захацелася працаваць у горадзе. У кастрычніку міне ёй 18 год, і тады яе могуць прыняць на працу на якім-небудзь прадпрыемстве. На гэта згаджаюцца ўжо і бацькі. — Чаго ж яна адна будзе сядзець на вёсцы? — кажа яе бацька. (хм)

### ПАРОДЗІСТАЯ ЖЫВЁЛА

Штораз больш у нас на вёсках пародзістай жывёлы. Добрыя гатункі курэй, авечак, свіней і кароў гарантуюць больш мяса, а гэта значыць і даходы большыя для гаспадара. Аляксей Паўлючук з Храбалоў (Бельскі павет) з'яўляецца добрым жывёлагадоўцам. Добрыя пародзістыя каровы даюць многа малака, і шмат яго Паўлючук прадае дзяржаве. Але найбольшыя даходы мае ён са свіней. У яго тры мацёры, якія кожны год даюць па два апаросы. Ён падгадоўвае парасят, прадае, перш за ўсё для членаў сельскагаспадарчых гурткоў. Зараз у яго таксама ёсць 20 парасят, якія неўзабаве будзе прадаваць.

Варта таксама падкрэсліць, што ў яго добра абсталяваныя хлявы, а загароды для парасят зроблены па-сучаснаму. (хх)

### АНТОН АНТОНАВІЧ

У Раманаве, Навасадах, Луплянцы, а нават Шымках і Ялоўцы, калі хто запытае, дзе жыве Антон Антонавіч, усюды скажуць, што трэба ехаць у вёсачку Кітурыкі. Антона Гарбачэўскага мала хто па прозвішчы ведае. Ведаюць як вусатага Антона Антонавіча. Ён многа гадоў быў солтысам. Вядомы ён яшчэ ў сваёй ваколіцы сваёй дабратою і гасціннасцю і тым, што любіць паўспамінаць далёкія мінулыя гады, гады царскай улады і вялікіх падзей у Расіі ў 1917 годзе. У той час быў ён матросам і сам прымаў удзел у лютаўскай і кастрычніцкай рэвалюцыях. Антону Гарбачэўскаму зараз 82 гады, а яго жонцы 76. Нягледзячы на гэта, Гарбачэўскія паспяхова апрацоўваюць гаспадарку і нікуды не хочуць адсюль ісці. У Гарбачэўскіх 2 сыны і 3 дачкі. Усе ўжо замужнія, жанатыя і маюць дзяцей. Дзве дачкі жывуць у Беластоку. У адной памёр муж. Мае яна добрую кватэру і прапанавала перайсці старым у Беласток да яе.

— Але як можна кінуць гаспадарку? Усё тут сам будаваў, кожнае дрэва садзіў. Тут я пражыў сваё жыццё, тут буду я і паміраць, — заяўляе Антон Антонавіч.

Ён любіць працаваць на гаспадарцы. Любіць у свабодную хвіліну прайсціся алейкай, якая вядзе ад яго будынкаў да вадастоішча, якое ўтварылася пасля выкапу гліны колішняй цагельняй. Ганарыцца Антон Антонавіч сваім канём, які страшна любіць салодкае — пакажы яму цукерку, а пойдзе ён усюды.

Кахае Антон Антонавіч усіх сваіх унукаў, якіх налічваецца аж 21. І калі прыехалі сыны, дочкі і ўнукі адзначаць залаты іх шлюб (было гэта ў мінулым годзе) і прывезлі падарункі — Антону Антонавічу здавалася, што ён найшчаслівейшы чалавек на свеце.

Найбольш ён удзячны сваёй адной унучцы — Ніне Гутоўскай з Беластока, якая вельмі часта знойдзе час і прыедзе ім старым людзям дапамагчы на гаспадарцы. Многа дапамагае яму таксама сын, які жыве ў Луплянцы.

Антон Антонавіч у бягучым годзе дачакаўся яшчэ двух праўнукаў. Задаволены ён найбольш тым, што служыць яшчэ здароўе, што ён яшчэ паўнавартасны гаспадар і са сваёю жонкаю — старушкаю паспяваюць належна апрацоўваць 9 га зямлі.

*Міхась Хмялеўскі*

### ЛІДЗІЯ САЛАВЕЙ

Лідзію Салавей з Лявонавіч (Беластоцкі павет) знал і аднавяскоўцы як галасістую жанчыну, якая ўпрыгожвала песняй сямейныя ўрачыстасці. 5-га ліпеня Лідзія Салавей на фэстыне БГКТ у Рыбаках прыняла ўдзел у конкурсе на беларускую песню і сваім арыгінальным, калі можна так сказаць, народным голасам захапіла ўсіх прысутных там людзей. Выступіла яна з народнай песняй «Ой, п'яна я, п'яна, да доманьку не траплю». Прыгожа спявае таксама муж Лідзіі, Мікалай Салавей. Але ён менш смелы і не адважыўся разам з жонкаю прыняць удзел у конкурсе.

Ёсць у нас на вёсках сапраўдныя народныя таленты. Падобна, як Лідзія Салавей у Рыбаках, так падчас конкурсу на беларускую песню ў Беластоку Софія Трафімчук з Дзернякова (таксама Беластоцкі павет) сваім моцным голасам заспявала дзве старыя песні, якія недзе там у вёсках калісьці нарадзіліся.

Гэтыя факты сведчаць аб тым, што ў многіх вёсках ёсць здольныя людзі, галасістыя і трэба іх выявіць і імі заапекавацца. Такімі народнымі талентамі павінны заняцца аддзелы беларускага таварыства. Каб па 3—5 такіх спевакоў знайшлося ў кожным аддзеле, дык тады смела можна арганізаваць фальклорны конкурс на беларускую песню. (сс)

### ЗАГРАНІЧНАЯ ЭКСКУРСІЯ НАСТАЎНІКАЎ

Беластоцкі аддзел Саюза польскіх настаўнікаў арганізуе для сваіх членаў вельмі цікавую заграничную экскурсію. Удзел у ёй прымае 25 настаўнікаў Беластоцкага павета. Маршрут будзе праз ГДР, Венгрыю і Чэхаславакію. Настаўнікам гэта вельмі карысна, бо многія з іх навучаюць дзяцей геаграфіі, не быўшы за мяжой. Кіраўніком групы з'яўляецца сябра Аляксей Ёська. Ён уладжвае арганізацыйныя справы, якіх ёсць даволі многа.

Экскурсія гэтая адбудзецца ў днях 28. VII. — 10. VIII. 1970 г. К. М.

### ВАПНАВАННЕ ГЛЕБЫ

Кожны селянін павінен ведаць аб вялікіх карысцях, якія прыносіць вапнаванне глебы. Вялікая колькасць мінеральных угнаенняў і натуральных угнаенняў не заўсёды прыносіць карысць без застасавання вапны. Адносіцца гэта перш за ўсё да глеб, якія маюць вялікую колькасць кіслотнасці. Таму сельскагаспадарчая служба ГРН Фальваркі Тыльвіцкія падрыхтавала 100 тон вапны. Будзе яна высеяна на зямельных угоддзях гэтай ГРН. Да гэтага сельскагаспадарчыя гурткі закупілі рассеўнікі, каб аблегчыць работу селяніна.

На жаль, няма адпаведных сеялак, каб можна было застасаваць ў індывідуальных гаспадароў. Сеялкі, якія прадукаваліся да гэтай пары, не вельмі добрыя і часта псуюцца. Павінны нашыя канструктары заняцца гэтаю справай, каб селянін не мусіў некалькі тон насіць на плячах, рассейваючы ўручную, а каб мог ён зрабіць гэта пры дапамозе машын.

*М. Краўчук*
Патока



*На здымку: Язэп Апштэль дае загады членам пажарнай каманды.*

*Фота П. Семянюк*

### 35 ГОД ПАЖАРНІКАМ

Усе пажарныя каманды вясною і летам найбольш змагаюцца з пажарамі. Пажарнікі ў Міхалове пад кіраўніцтвам Язэпа Апштэля ў гэты час асабліва чуйныя і на сігнал сірэны вельмі хутка збіраюцца, ды калі трэба, ахвярна і ўмела змагаюцца з вогненнай стыхіяй. Знаюць усе яны добра сваю справу, бо часта адбываюцца ў іх заняткі. Пераказвае ім свае веды іх кіраўнік, які працуе пажарнікам ужо 35 год. Ён носіць на грудзях галёвага касцюма медаль «35 год у пажарнай камандзе». Міхалоўскія пажарнікі падчас змагання з агнём моцна прыслужыліся насельніцтву. (мс)




### ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Пазнаёміўся я з Марысяй год таму назад. Яна вучыцца ў сярэдняй школе ў горадзе. Са мной здарыўся выпадак, і я паўгода праляжаў у шпіталі. Яна цэлы час прыходзіла да мяне, наведвала. Калі я вярнуўся са шпіталя, мы ўгаварыліся на сустрэчу. Марыся прыйшла на сустрэчу, але невядома чаго мы пасварыліся. Калі я вярнуўся дахаты, на вёску, выслаў да Марысі пісьмо, але адказу не атрымаў. Выслаў другое, але таксама нічога не атрымаў.

Парай, Сэрцайка, што рабіць, ці забыць пра Марысю, ці выслаць яшчэ адно пісьмо, а мо сустрэцца?

За параду буду ўдзячны.

*Міша*
з Бельшчыны

МІША! Факт, што Марыся адведвала цябе цэлых паўгода ў шпіталі, сведчыць аб тым, што ты з'яўляешся ёй кімсь блізкім, мо блізкім сэрцу, а мо добрым сябрам. Мне на гэта, на жаль, трудна адказаць, аднак ты, напэўна, заўважыў (павінен!) Пішаш, што пасварыліся, няведама за што. Бывае і так. Трудна даходзіць, хто з вас вінаваты, пэўна, і аднаго тут віна і другога. Ты вышаўшы проста са шпіталя, вядома, неспакойны, а Марыся мо спадзявалася ад цябе цёплых слоў, мо падзякі, проста трудна здагадацца, ды і няма патрэбы. Вядома ж, дзе каханне там і сваркі. Ты яшчэ пачакай, не пішы, дай і Марысі хвілінку на роздумы такога вось роду, як твае: кахае ці не? Час пераконвае ў пачуццях. Потым найлепш будзе паехаць і сустрэцца з Марысяй. Тыя, якія сапраўды кахаюць, пры першай сустрэчы па даўжэйшай разлуцы, зусім забываюць, за што яны сварыліся. Тады, Міша, да першай сустрэчы!

*Сэрцайка*

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Mroźny poranek" (radz.), 4—5. „Kopciuszek w potrzasku" (franc.), 6—7. „Mściciel z przeklętej góry" (jugosł.), 8—9.

**Дубіны**

„Zbrodniarz, który ukradł zbrodnię" (polski), „Październik — 10 dni, które wstrząsnęły światem" (radz.), 5—9.

**Нараўка**

„Dożyjmy do poniedziałku" (radz.), „Kalejdoskop" (ang.), 5—9.

**Нарва**

„Dzika Elżbieta" (czeski), „Tylko umarły odpowie" (polski), 5—9.

**Чыжы**

„Lalka" (polski), „Polowanie na mężczyznę" (franc.), 5—9.

**Дубічы Царкоўныя**

„Koniec agenta W4C" (ang.), „Szósty lipca" (radz.), 5—9.

**Арэшкава.**

„Milion lat przed naszą erą" ang.), „Tylko jedno życie" (radz.), 8—9.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Morderca na zawołanie" (NRD), „Zwariowałeś Toni" (czeski) 5—9.

**Орля**

„Słońce obcego nieba" (jugosł.), „Włoch w Argentynie" (włoski), 5—9.

**Райск**

„Adolf" (franc.), „Wniebowstąpienie" (polski), 5—9.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Міхалова**

„Na pomoc (ang.), 4—5. „Dzwony dla bosych" (czeski), 5—6. „Gra" (polski), 7—8.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Nowy Gilgamesz" (węgierski), 4—5. „Nie drażnić cioci Leontyny" (franc.), 6—7, „Raj na ziemi" (polski), 8—9.

**Янаў**

„Grzech Azizy" (ZRA), 5—9.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Skowronek" (węgierski), 4—5. „Gra bez reguł" (czeski) 6—7. „Ostatni watażka" (bułg.), 8—9.

**Мельнік**

„Casanowa znad Dunaju" (węgierski), 4—5. „Zwiadowca" (radz.), 6—7. „Czekam w Monte Carlo" (polski), 8—9.

**Мілейчыцы**

„Ostatni lot" (radz.), 4—5. „Cierpienia młodego Bohaczka" (czeski), 6—7. „Polowanie na muchy" (polski), 8—9.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Paragon gola" (polski) „Śpiewa Ywes Montand" (radz.), 8—9.

**Новы двор**

„Biały pokój" (bułg.), „Zwariowałeś Toni" (czeski), 8—9.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. Nakład 5693 W—3

